# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнага Праўленьня Прафэсыянальнага Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў Б. С. С. Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон.
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ДВА ТЫДНІ

№ 1 | 25-га красавіка 1931 году | № 1


## ЗЬМЕСТ



## ПАСТАНОВА

### 1-га Ўсебеларускага З'езду Саюзу рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў, аб задачах саюзнай работы.

1-шы Усебеларускі Зьезд Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў з вялікім здавальненьнем адмячае своечасовасьць рашэньня V-га Пленуму ЎсеЦСПС аб разбуйненьні прафсаюзаў і далейшым паляпшэньні іх работы і лічыць, што гэтыя рашэньні поўнасьцю адпавядаюць пастанове XVI-га Зьезду ЎсеКП(б), паставіўшага задачу па паглыбленьні і завяршэньні павароту прафсаюзаў тварам да вытворчасьці. Разбуйненыя прафсаюзы — „адно прадпрыемства — адзін саюз“, перастройка іх работы, пасіленьне работы сярод вядучых прафэсый — усё гэта стварае магчымасьць больш поўнага і глыбокага ахвату прафсаюзамі рабочых мас. Гэта арганізацыйная перастройка прафсаюзаў яшчэ больш падвышае іх роль у сацыялістычным будаўніцтве, набліжае к канкрэтным задачам кіраўніцтва вытворчасьцю, стварае ўмовы да лепшага разгортаўленьня сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, а таксама больш поўнага і лепшага абслугоўваньня матэр'яльна-бытавых і культурных патрэб рабочых мас.

Поўнасьцю адабраючы рашэньне V-га Пленуму ЎсеЦСПС. Зьезд пастанаўляе:

1. Зацьвердзіць у асноўным распрацаваную структуру Цэнтральнага Праўленьня Саюзу, даручыўшы апошняму прыняць меры да арганізацыі спэцыяльнай групы „праверка выкананьня“, а таксама ў месячны тэрмін распрацаваць практычныя мерапрыемствы па арганізацыйнай структуры і перабудове работы нізавых саюзных ячэяк (вучастковы камітэт, цэхавы камітэт, сэктары, арганізатары і г. д.).

2. Зьезд асабліва падкрэсьлівае, што пабудова праўработы на новыя формы і мэтады пад лёзунгам „Лицом к производству“ заключаецца ня толькі ў разбуйненьні саюзу і новай структуры Цэнтральнага Праўленьня, але яна павінна шпаркім тэмпам праводзіцца зьверху да нізу і ўся ўвага перабудовы прафработы павінна быць перанесена ў нізавую ячэйку, цэх, брыгаду, групу.

Неабходна шырока рязгарнуць дабраахвотніцтва ў прафапаратах, вазглавіць сац. спаборніцтва і ўдарніцтва, палепшыць жывое кіраўніцтва і практычную дапамогу нізавым ячэйкам.

3. Зьезд абавязвае Цэнтральнае Праўленьне і ўсе рабачкомы забясьпечыць хуткае правядзеньне ў жыцьцё ўсіх рашэньняў Партыі і прафсаюзаў,

аб далейшым разгортваньні сацспаборніцтва і ўдарніцтва, хутчэйшага давядзеньня прамфінпляпаў да кожнага цэха, брыгады і рабочага, лепшай арганізацыі працы ў саўгасах, тэрміновага ўвядзеньня зьдзельна-прэміяльнай сыстэмы аплаты працы, каб прамфінпляны саўгаскага будаўніцтва і другой бальшавіцкай сяўбы, а таксама двухбакавыя абавязацельствы, прадугледжаныя ў генэральных колдагаворах і дадатковых згодах рабачкомаў з адміністрацыяй былі-б выкананы і перавыкананы ў парадку сустрэчных прамфінплянаў.

4. Адмечаючы надзвычайна вострую патрэбу профкадраў саўгасаў і нізкую кваліфікацыю маючыхся, Зьезд абавязвае ЦП на працягу 1931 г. разгарнуць падрыхтоўку і перэкваліфікацыю профработнікаў такімі тэмпамі, каб к канцу году была бы поўнасьцю забясьпечана патрэбнасьць у кадрах і прыняць усе меры да прастанаўленьня цякучасьці прафработнікаў. Трэба рашуча дабіцца ўзмацненьня жывелагадоўчых саўгасаў за кошт работнікаў аслабаняючыхся па ліквідацыі райкомаў саюзу СГР.

Зьезд патрабуе ад ЦП Саюзу ў далейшым рашуча палепшыць выхаваўчую работу з студэнцтвам, спэцыялістымі і прыняць усе захады к таму, каб былі бы поўнасьцю выкананы дырэктывы Партыі аб падрыхтоўцы кадраў для жывёлагадоўчых саўгасаў.

5. Зьезд заклікае ўсіх рабочых, работніц і спэцыялістых жывёлагадоўчых саўгасаў па бальшавіцку ўзяцца зааўладаньне тэхнікай, агранаміяй і заатэхнікай. Зьезд абавязвае рабачкомы і ЦП Саюзу разгарнуць гэту работу так, каб усе ўдарнікі ў першую чаргу і ня менш 50% рабочых былі бы ахоплены спэцыяльнымі тэхнічнымі гурткамі, ЦП саюзу забясьпечыць гэтыя гурткі своечасовым мэтадычным кіраўніцтвам і дастатковай колькасьцю адпаведнай літэратуры.

6. Адмечаючы нездавальняючую культурна-масавую работу з новымі кадрамі рабочых, а таксама жанчынамі і спэцыялістымі, Зьезд абавязвае ЦП Саюзу і рабачкомы паставіць сабе гэту задачу, як адну з найважнейшых і намеціць практычныя мерапрыемствы па падняцьцю на належную вышыню гэтай работы (школы, гурткі, лікпункты, газэты і г. д.).

7. Правядзеньне нац. палітыкі Партыі, беларусізацыі і інтэрнацыянальнага выхаваньня рабочых саўгасаў ёсьць адно з слабейшых зьвеньняў прафсаюзнай работы, па гэтаму Зьезд абавязвае ЦП саюзу і ўсе рабачкомы тэрмінова прыступіць да правядзеньня ў жыцьцё пастановы Кастрычнікавага (1930 г.) Пленуму ЦК КП(б)Б па нацыянальнаму пытаньню. Трэба пасіліць работу па беларусізацыі, палепшыць абслугоўваньне нацменьшасьцяў на іх роднай мове. Шырока разгарнуць працу па інтэрнацыянальнаму выхаваньню рабочых. Усім саюзным арганізацыям пасіліць рашучую барацьбу з расейскім шавінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе і не паслабляць барацьбы з беларускім контррэвалюцыйным нацдэмакратызмам і шовінізмам усіх масьцей (яўрэйскі, польскі, літоўскі, антысемітызм і г. д.).

8. Зьезд патрабуе ад рабачкомаў і саўгаскіх рабочых большага і актыўнейшага ўдзелу ў пытаньнях калектывізацыі бедняцка серадняцкіх гаспадарак такімі тэмпамі, каб вакол усіх саўгасаў была-бы разгорнута суцэльная калектывізацыя і на гэтай аснове ліквідацыя кулацтва як клясы. Саўгасы павінны пасіліць агрэдапамогу калгасам і палепшыць сваю работу па арганізацыі працы ў калгасах. Паглыбляючы гаспадарчую дапамогу калгасам, саўгасы ў той самы час і павінны зьнішчыць „сабезаўшчыну" і разгарнуць двухбаковыя гаспадарчыя абавазацельствы саўгасаў з калгасамі.

9. У пытаньнях маар'яльна-бытавога становішча рабочых Зьезд прапануе:

а) Да пачатку пасеўнай кампаніі арганізаваць у буйных саўгасах рабочыя каапэратывы, а ў ва ўсіх апошніх — зачыненыя разьмеркаваццелі, дабіўшысь таго, каб у гэтыя каапэратывы і разьмеркаваццелі былі бы высунуты, як правіла, саўгаскія рабочыя.

б) Арганізаваць грамадзкі рабочы кантроль над работай патрэб. каапэрацыі па забясьпячэньню саўгаскіх рабочых, і ў тых выпадках, калі саугасам не

выдаюцца па ўстаноўленым нормам промтавары і прадукты харчаваньня тэрмінова даводзіць аб гэтым да ведама РСІ і Пракуратуру для прыцягненьня вінаватых да адказнасьці.

в) Ва ўсіх саўгасах па лініі каапэрацыі арганізаваць сталовыя, палепшыць якасьць абедаў і зьнізіць сабекаштоўнасьці, давёўшы гэтую да нармальнай дзейнасьці.

г) Тэрмінова прыступіць да разгортваньня работы па арганізацыі пры саўгасах рабочых агародаў, малочных фэрм і сьвінаадкормачных пунктаў.

д) Да пачатку пасеўной кампаніі ва ўсіх саўгасах арганізаваць дзіцячыя яслі і пляцоўкі, даўшы гэтым самым магчымасьць максімальнага ўцягненьня жанчын на работу ў саўгасы.

е) Сумесна з Наркамздравам распрацаваць пляны лепшага мэд-абслугоўваньня саўгасаў і набліжэньне будаўніцтва мэд'ўстаноў да саўгасу.

ж) Забясьпечыць поўнае выкананьне жыльлёва-будаўнічай праграмы ў саўгасах на 1931 год.

10. У культурна масавай рабоце сярод рабочых неабходна:

а) Ясудзіць і зьнішчыць апалітычнасьць культруна-масавай рабоце (клюб, чырвоны куток, насьценгазэта) перабудаваўшы і падпарадкаваўшы гэткую выкананьню задач сацыялістычнага будаўніцтва.

б) Тэрмінова праверыць усю работу па ліквідацыі няпісьменнасьці і прыняць захады да ўсеагульнай ліквідацыі няпісьменнасьці ў 1931 г. сярод усіх членаў саюзу і рабочых саўгасаў.

в) У ваўсіх саўгасах разгарнуць сетку гурткоў (палітычных, прафруху, агульна-адукацыйн.) і наладзіць вучобу як сярод прафактыву, гэтак і рабчых саўгасаў.

г) Праверыць работу па ўдзельнічаньню саўгасаў у палітэхнізацыі школ і прыняць меры да наладжваньня гэткай.

д) Радзіафіцыраваць усе саўгасы і правесьці трансьляцыю не менш як у 20% рабочых кватэр..

е) Распрацаваць мерапрыемствы па к-наабслугоўваньню саўгасаў і устаноўкі стацыянарных кіно.

ж) Ажыцьцявіць работу масавых арганізацый і асабліва ячэяк АСОВІАХІМА і вайсковых гурткоў.

з) Перабудаваць работу газэты „Сельгасрабочы Беларусі“ у адпаведнасьці з рэарганізацыяй саюзу сельгасрабочых.

11. Зьезд падкрэсьлівае неабходнасьць хутчэйшага росту саюзу за кошт уліваючыхся ў саўгасы новых пралетарскіх кадраў рабочых.

12. З асаблівай сілай зьезд завострае ўвагу ўсіх саюзных арганзацый і рабочых саўгасаў на неабходнасьць максімальнага разгортваньня работы па мабілізацыі фінансавых сродкаў насельніцтва (збор паёў, пратэрміновак, заём „5 ці годка ў 4-ры гады“, уклады Ашчадкас, акцыі Трактарацэнтру).

Згуртоўвая свае шэрагі вакол Камуністычнай Партыі, разгортвая крытыку і самакрытыку, рашуча вядучы барацьбу за правядзеньне генэральнай лініі Партыі, бязлітасна вядучы барацьбу з правым апартунізмам, як галоўнай небяспекай на даным этапе, левымі загібамі і прымірэнтсвам.

Саюз рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў упаўне сазнавая свае новыя задачы ў 3-м рашаючым годзе 5 ці годкі прыме ўсе заходы к таму, каб бальшавіцкімі мэтадамі сацспаборніцтва і ўдарніцтва, устрэчных прамфінплянаў быць у першых шэрагах барацьбітоў за вырашэньне жывёлагадоўчай праблемы ў 1931 г., за выкананьне і перавыкананьне ня толькі колькасных, але і якасных паказчыкаў прамфінпляну, за пасьпяховае правядзеньне бальшавіцкага севу і ўборкі, за разгортваньне суцэльнай калектывізацыі і на яе грунце—ліквідацыя кулацтва як клясы.

**Па сьвінаводу.**

1. У саўгасах Сьвінавода па заданьнях Партыі і Ураду павінна быць на 1/І 32 г. разьмешчана 75.000 матак і матачак, даведзена пагалоў'е да 215.000, зданы першыя 60 000 галоў таварнай прадукцыі, праведзена пасеўная на плошчы ў 60.000 гэкт. Гэтыя задачы патрабуюць сваячасовага адводу прыгодных зямель, лепшай працы па укамплектаваньню сьвіноматкамі, недапушчэньня масавага

адходу маладняку, ліквідацыі яшчэ маючайся буйнай безгаспадарчасьці і шкодніцтва ў паасобных саўгасах. ліквідацыі недаацэнкі ролі сацыялістычнае сьвінагадоўлі з боку шэрагу раённых, савецкіх і каапэрацыйных арганізацый, наяўнасьці яўнай правай практыкі ў вырашэньні праблемы кадраў шэрагам саўгасаў і пад'ему рабочых калектываў праз соцспаборніцтва і ударніцтва на забесьпечэньне тэмпаў і высокіх якасных паказчыкаў работы, гарантыруючых выкананьне і перавыкананьне задач пастаўленых перад Сьвінаводам Партыяй і Урадам.

2. Выходзячы з гэтага З'езд абвяшчае сябе мабілізаваным на барацьбу за поўнае своечасовае, добраякаснае укамплектаваньне высока-вытворчымі станкамі, за 12 таварных свіней цэнтнерных па вазе, у 8-м месяцаў, ад двух апаросаў у год, за максімальнае выкарыстаньне кожнага мяснога станка; за выкананьне і перавыкананьне пасеўных плянаў як па агульнай плошчы, гэтак і асабліва па кармавым культурам-ня меньш 10% уздыму ураджайнасьці супроць запраэктаванай па прамфінпляну, разгортываньне збору рабочых прапаноў і іх хутчэйшай рэалізацыі, за выкананьне і перавыкананьне з высокімі якаснымі паказчыкамі будаўнічай праграмы прамфінпляну ў ва усіх галінах.

3. Зьезд патрабуе ад НКЗ закончыць да першага жніўня такое ўзбуйненьне саўгасаў, каб у 1932г. было мажліва забясьпечыць на кожную сьвінаматку ня меньш $1^1/_2$ га пасеву.

4. Адміністрацыйна-тэхнічны персанал і Рабачком саўгасаў павінны безадкладна закончыць поўную ўнутраную гатоўнасьць да севу праводзячы поўнасьцю мабілізацыю ўнутраных рэсурсаў і не пазьней паловы красавіка закончыць здачу насеньня і інш. сродкаў вытворчасьці па нарадах Сьвінавода. Ад НКЗ Саюзу праз ЦК Саюзу з'езд патрабуе прыняцьця мер хутчэйшай адгрузкі ўгнаеньняў, трактараў, аўтамашын і с-г. машын, без чаго правядзеньне севу знаходзіцца пад яўнай пагрозай зрыву.

5. Зьезд катэгарычна патрабуе ад Сьвінавода, дырэктараў саўгасаў, рабочых камітэтаў паставіць у якасьці цэнтральнага рашаючага зьвена і забясьпечыць выкананьне лепшай арганізацыі працы, безадкладнага пераводу ўсіх прац на зьдзельную і зьдзельна-прэміяльную аплату працы, ліквідацыі абязьлічкі на трактарах, конях, с-г. машынах уходу за жывёлай, прыняць самыя рашучыя меры ўплатненьня працоўнага дня і рашучага паляпшэньня якасьці працы.

6. Вярбоўка патрэбных кадраў за лік батракоў, сельгасрабочых 2.000 чалавек і КСМ 2.000 чалавек патрабуе выкананьня поўнасьцю праграмы пабудовы 238.292 куб. мэтр. жылых будынкаў, агульным коштам 2.926 тыс. руб. разам з камунальным і культурна-асьветным будаўніцтвам, патрабуе максымальна рацыянальнага выкарыстаньня ўсіх сродкаў.

Зьезд патрабуе ад Белкаапсаюзу па справе рэалізацыі ўсіх рашэньняў партыі і ўраду і заключаных умоў па грамадскаму харчаваньні.

8. Задача падрыхтоўкі ў 1931 г. дадаткова ня менш 400 ст. сьвінараў, 2.000 младшых, 400 даярак і скотнікаў і інш. кадраў, неабходнасьць максімальна поўнага выкананьня лёзунгу тав. Сталіна ауладаньня тэхнікай патрабуе ліквідацыі правоапартуністычнай практыкі шэрагам дырэктароў і рабочымі камітэтамі правядзеньня мер забесьпечваючых разварот працы вакол курсаў, экскурсій, вытворчых канферэнцый на працягу ўсяго году. Рашучага паляпшэньня рацыяналізатарскай працы і садзейчаньня вынаходніцтву.

9. Зьезд патрабуе бязумоўнага выкананьня хутчэйшага ўкамплектаваньня сьвінаматкамі, ліквідацыі прагулаў мясных станкоў, забяспечаньня правільнага харчаваньня і дагляду Зьезд катэгарычна асуждае меўшыяся выпадкі ігнараваньня мерапрыемства, не выкананьне зооветмінімуму выключнай нядбайнасьці па уходу, ад чаго меліся аграмадныя страты. Зьезд заклікае ўсіх ударнікаў, ўсіх рабочых дабіцца безадкладнай ліквідацыі гэтых страт забясьпечыць ліквідацыю масавага адходу парасят, поўнасьцю пакзартальна выкананьць здачу таварнай прадукцыі і гэтым рэальна дапамагчы выкананьню пяцігодкі ў чатыры гады.

10. Трынадцаці мільённая будаўнічая праграма, патрабуюць безадкладнага разгортваньня будаўніцтва, вывазу ўсіх лясных будаўнічых матар'ялаў, нарыхтоўкі мясцовых, забясьпечаньня высокай якасьці будаўніцтва, усямернага патаненьня жорсткага рэжыму эканоміі і будматар'ялаў.

Зьезд патрабуе ад дырэктароў і рабочых каляктываў паставіць у цэнтры ўвагі ўсё капітальнае будаўніцтва, ад Сьвінавода хутчэй вырашыць пытаньне будаўніцтва кухань і механізацыі саўгасаў і поўнага водазабяспечаньня у 1931 г.

Адзначаючы зусім нездавальняючую працу саўгасаў у калгасным будаўніцтве (аказаньне агравытворчай дапамогі ім, арганізацыя новых калгасаў) З'езд заклікае ўсіх рабочых стаць у першых радох арганізатараў новага калгаснага прыліву актыўных арганізатараў клгасных таварных ферм. Навокал саўгасаў павінны быць выключна калгасы—саўгасы павінны узяць шэфства над акаляючымі калгасамі і устанавіць з імі непасрэдную гаспадарчую узаемадапамогу.

Гэтыя задачы, пастаўленыя перад Белсаўгастрэстам і Сьвінаводам, могуць быць выкананы толькі актыўнай упартай барацьбой усіх рабочых пры камуністычных мэтадах працы—сацыялістычным сацспаборніцтве і ударніцтве, перакрыцьця сустрэчнымі прамфінплянамі меўшыяся прарывы пры барацьбе за высокія якасныя паказчыкі, як за цэнтральныя задачы, толькі пры рэальнай дапамозе з боку савецкіх, прафсаюзных і каапэрацыйных арганізацый.

Зьезд выступае ў паход за зборрабочых прапаноў на выкананьне і перавыкананьне Прамфінпляну ва ўсіх, яго галінах. Патрабуе ад Белсаўгастрэсту і Сьвінаводу, адміністрацыі саўгасаў—максымальнай іх рэалізацыі

Зьезд заклікае шырокія масы рабочых і спэцыялістаў саўгасаў, калгасьнікаў на барацьбу за фабрыкі мяса! абязуясь пад кіраўніцтвам кампарты выканаць задачы па стварэньню высока—таварных спэцыялізаваных сацыялістычных фабрык мяса і малака.

## ПАСТАНОВА

### 1-га Ўсебеларускага зьлёта ўдарнікаў сьвінаводных Савецкіх гаспадарак.

1. Ударнікі будаўніцтва сацыялістычных сьвінаводных фабрык мяса, сабраўшыся на свой першы зьлёт, заслухаўшы і абгаварыўшы даклад аб вясновым севе і камплектаваньне сьвінаматкамі, правядзеньні апаросаў і задачах ўдарнікаў, выходзячы з таго, што вырашэньне мясной праблемы зьяўляецца аднэй з важнейшых задач эканамічнае палітыкі партыі і ўраду, дапамагаючай далейшай пасьпяховай індустрыялізацыі Савецката Саюзу, паспяховаму выкананьню пяцігодкі ў 4 гады, улічаваючы задачы пастаўленыя перад сьвінаводам і тым, што галоўнай машынай па вытворчасьці мяса у бліжэйшыя гады зьяўляецца сьвіньня, заяўляюць ад імя усіх ударнікаў і усіх рабочых саўагасаў аб сваей поўнай гатоўнасьці ўпарта змагацца за пабудову сацыялістычных фабрык мяса, за колькаснае і якаснае выкананьне і перавыкананьне прамфінпланаў 1931 году.

2. Зьлёт падкрэсьлівае, што за зусім кароткі час існаваньня Сьвінаводу, ва ўмовах абвостранага супраціўленьня кулака сацыялістычнаму наступу (падпалы, шкодніцтва ў будаўніцтве, кармавыя пытаньні і інш. галінах), у арганізацыі сьвінасаўгасаў ёсьць некаторыя посьпехі: арганізована 80 саўгасаў на плошчы 84.000 га, пабудавана матачных і адкормачных месц 23.000, сабрана і вырасьлена сьвінаматак 17.519 галоў. Агульнае стада даведзена да 27.500 галоў, сабраны значныя тэхнічныя кадры, шэраг саўгасаў перавыканалі заданьне па сьвінаматках, забясьпечылі мінімальны адход парасят.

3. Аднак у становішчы арганізацыі сьвінаводчых гаспадарак ёсьць буйнейшыя прарывы.

а) Наяўнасьць яшчэ ў значнай колькасьці саўгасаў вякамі склаўшагася ўяўленьня, што сьвіньня зьяўляецца самай няпрыхотлівай жывёлай „есьць гной, сьпіць на гноі і ёй нічога больш не патрэбна“, наяўнасьць антысьвінаводчых

настрояў і практыкі праяўленай у тым, што сьвінагадоўля не пастаўлена ў якасьці цэнтральнай вядучай галіны саўгасу Сьвінару яшчэ ў шэрагу сагасаў не адведзена месца рашаючай фігуры ў саўгасе.

б) Недапушчальна нізкія якасныя паказчыкі работы 1930 г., адход парасят у працэнтах зрываючых без нэдзвычайных мер ня толькі паход за 12 таварных, але і прынятых па прамфінпляну, пры наяўнасьці буйнейшай безгаспадарчасьці і ў другіх галінах,

в) Не адвод да гэтай пары патрэбных прыгодных зямель, позьні завоз сродкаў вытворчасьці да веснавой пасеўкампаніі, угнаеньне, насеньне, с/г машыны, і непадрыхтоўка іх унутры саўгасаў, адсутнічаньне мабілізацыі ўсіх унутраных мажлівасьцяў на справу будаўніцтва мясных фабрык.

г) Зрыў зімовага будаўніцтва, дрэнная падрыхтоўка мясцовых будаўнічых матар'ялаў і непадвоз усіх будаўнічых матар'ялаў для выкананьня праграмы 1931 г. Выключна дрэнная праца Белсельбуду, яўна неспраўляючагася з задачамі ўскладзенымі на яго.

д) Наяўнасьць у шэрагу саўгасаў яўнай правай практыкі ў вырашэньні рашаючай праблемы кадраў. Засьмечанасьць шэрагу саўгасаў кулацка-варожымі элементамі, зусім дрэнна разварочваецца арганізацыя працы, ні ў якой меры не разгорнута праца, барацьбы за аўладаньне тэхнікай. Наяўнасьць нядбайных адносін да працы, адсутнічае канкрэтная праца, рашучая барацьба за рост вытворчасьці і праз гэта недавыкананьне прамфінпланаў і яго якасных паказчыкаў.

е) Яшчэ зусім недастатковая дапамога з боку раённых савецкіх, прафсаюзных і грамадзкіх арганізацый будаўніцтву сьвінасаўгасаў.

ж) Пераважная большасьць прафсаюзных ячэек не забясьпечылі яшчэ на справе павароту тварам да вытворчасьці. Зусім дрэнна ажыцьцяўляецца разгортваньне і кіраўніцтва ударніцкім рухам і разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва вакол важнейшых канкрэтных задач сьвінсаўгасаў.

4. Выходзячы з ролі сацыялістычнае сьвінагадоўлі і канкрэтных задач на 1931 год і сучаснага становішча будаўніцтва свінасаўгасаў, I шы зьлёт ударнікаў патрабуе і абавязваецца:

**А. У галіне падрыхтоўкі да сяўбы.**

1. Канчаткова скончыць да 5-га красавіка падрыхтоўку ўсіх унутраных сродкаў вытворчасьці (рамонт машын, ачыстка насеньня, дастаўка вапны, збор унутранных угнаеньняў і інш.), правеўшы да гэтага часу генэральны абгляд гатоўнасьці да севу арганізацыяй ўва ўсіх саўгасах пробных выездаў у поле.

2. Да 10 га красавіка скончыць вярбоўку патрэбных да вясеньняга севу рабочых батракоў і камсамолу. Зьлёт патрабуе ад дырэктараў і рабачкомаў саўгасаў правядзеньня безадкладнай ачысткі саўгасаў ад пралезшых кулацкіх і нэпманскіх элементаў, забясьпечыўшы самы пільны кантроль у гэтай далейшай рабоце. Ад БРК, Свінаводу, рабачкомаў, адміністрацыйна тэхнічнага пэрсаналу зьлёт патрабуе разгортваньне сярод прымаемых і ўсіх рабочых шырокай палітыка-выхаваўчай працы, рэальнай дапамогі ўсім рабочым праз курсы, гурткі, вытворчыя канфэрэнцыі, экскурсіі, завочнаю кансультацыю на справе хутчэйшага аўладаньне тэхнікай.

3. Арганізацыя працы зьяўляецца рашаючай падставай выкананьня прамфінпляну. Зьлёт патрабуе да 15 га красавіка скончыць нармаваньне працы па ўсіх галінах і пераводу на зьдзельную і зьдзельна-прэміяльную сыстэму аплаты працы. Забясьпечыць максымальнае ўшчыльненьне рабочага дню, ліквідацыі абязлічкі, дагляду за жывёлай, працы на трактарах, с/г машынах і конскай цягавай сіле. Зьлёт абавязваецца забясьпечыць падём ўсіх рабочых калектываў на максымальную вытворчасьць і якасьць працы, рашучую барацьбу з безгаспадарчасьцю, нядбайнымі адносінамі да працы, прагульшчыкамі і лятунамі.

4. Зьлёт абавязваецца змагацца за максымальнае пашырэньне пасеўнай плошчы, выкарыстоўваючы ўсе годныя для засеву зямельныя вучасткі звыш пляну, максымальнае пашырэньне кармавых культур, за найвысшую ураджай-

насьць усіх культур, шляхам поўнай мабілізацыі мясцовых сродкаў угнаеньня, лепшай працы і лепшага дагляду за культурамі, каб на 100% забясьпечыць сакавітымі, грубымі кармамі і выпасамі на 1931-32 г. Зьлёт абавязваецца падрыхтоўку да сена-уборачнай кампаніі паставіць зараз жа ў цэнтры працы саўгасу.

5. Зьлёт катэгарычна патрабуе ад Сьвінаводу і забясьпечваючых арганізацый прыняць надзвычайныя меры да прасоўваньня ўсіх завозных сродкаў вытворчасьці (угнаеньня, машын, аўтамашын) да 10/IV. Зьвяртаецца з просьбай да ЦКК РСІ прыняць рэальныя меры ўзьдзейнічаньня па гэтым пытаньні на адпаведныя арганізацыі. З свайго боку мы, ударнікі, абавязваемся забясьпечыць безадкладную адгрузку насеньня па нарадах са сваіх саўгасаў.

6. Рабочыя калектывы сацыялістычных фабрык мяса павінны яшчэ больш узмацніць сваю працу па ператварэньні саўгасаў у аванпасты сацыялістычнага наступу і арганізацыі рэальнай гаспадарчай ўзаемадапамогі з калгасамі. Зьлёт рашуча патрабуе ад усіх арганізацый і рабочых саўгасаў значна пашырыць сваю работу па калектывізацыі бедняцка серадняцкіх гаспадарак і ліквідацыі кулцтва, як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі.

## Б. У галіне ўкамплектаваньня і правядзеньня вясеньніх апаросаў.

7. Першы зьлёт ударнікаў выступае ў паход за безадкладнае і добраякаснае ўкамплектаваньне высока вытворчымі сьвінаматкамі, за 12 таварных сьвіней ў год ад двух апаросаў, за максымальнае выкарыстоўваньне кожнага станка без халастых прагулаў, за максымальна нізкі сабекошт мяса, за поўную здачу па прамфінплянах таварнай прадукцыі, за штодзённую беражлівасьць кармоў, выходзячы з таго: зьлёт патрабуе павароту на справе да сьвінагадоўлі ўсяго трохкутніка саўгасу, шырачэйшых рабочых мас і ўсіх спэцыялістаў, як вядучай галіне саўгасаў, забясьпечыўшы першачарговае абслугоўваньне гэтай галіны, зьлёт абавязваецца на справе спыніць безадкладна масавы адыход парасят, пагражаючы зрывам прамфінпляну. Зьлёт патрабуе самага жорсткага пакараньня ўсіх нядбайнікаў, зрываючых соцыялістычную сьвінагадоўлю.

8. Гарантуем правядзеньне жорсткіх правіл карантыраваньня зьбіраемых сьвінаматак.

9. Не дапусьцім ні аднаго дню прагулу мясных станкоў, сваечасова праводзячы пакрыцьцё ўсіх матак.

10. Забясьпечым правільнае харчаваньнё па нормах вэтаміннае і мінэральнае харчаваньне, ліквідуем масавы перакорм сьвіней і спынім гібель праз гэта шмат апаросаў.

11. Забясьпечым правільны дагляд праз сваечасовае харчаваньне, штодзённыя прагулкі, чыстае ўтрыманьне станкоў і асабліва кармушак поўнасьцю выконваючы зоотэхнічны і вэтэрынарна-прафілёктычны мінімум.

12. Патрабуем пасылкі на сьвінарнік сапраўды лепшых рабочых, абавязковага ўвядзеньня зьдзельшчыны - зьдзельна-прэміяльнай сыстэмы аплаты працы, ажыцьцявіўшы гэта па ўсіх саўгасах не пазьней 15-га красавіка.

13. Зьлёт патрабуе ад Сьвінаводу забесьпячэньня ў самы бліжэйшы час максымальнай мэханізацыі ў галіне сьвінагадоўлі і іншых галінах.

## В. У галіне будаўніцтва.

14. Забясьпечыць у цэнтры ўвагі пад штодзённым рабочым кантролем рэальную барацьбу за сваечасовае і поўнае выкананьне будаўнічай праграмы, максімальнае зьніжэньне кошту будаўніцтва, рашучы ражым эканоміі будаўнічых матар'ялаў.

15. Зьлёт патрабуе ад Белсельбуду, Сьвінаводу і адміністрацыі саўгасаў безадкладнага разгортваньня будаўніцтва сьвінарнікаў, жылых будынкаў, ізалятараў водазабесьпечэньня, поўнага вывазу да пачатку вясеньняга севу ўсіх будаўнічых матар'ялаў, датэрміновага выкананьня прамфінпляну ў галіне будаўніцтва 1931 года; сваечасова забясьпечыць буаўнічымі матар'яламі.

## Г. У галіне кадраў.

16. Зьлёт патрабуе ад трэсту Сьвінавод лепшага забясьпачэньня саўгасаў

кадрамі аграномаў, вэтурачоў і зоотэхнікаў, арганізацыі павялічанага прыёму ў першую чаргу за кошт саміх рабочых саўгасаў у навучальныя ўстановы, больш рашучага вылучэньня і прасоўваньня на больш адказныя тэхнічныя пасады рабочых і арганізацыі значна лепшай курсавой падрыхтоўкі.

17. Зьлёт патрабуе ад БРК саюзу забесьпечыць актыўны ўдзел у дапамозе аўладаньня тэхнікай шырокімі рабочымі масамі ўсіх ІТС і ІТР,—разам с а Сьвінаводам распрацаваць і безадкладна ажыцьцявіць сыстэму мерапрыемства ў паходу за тэхнікай.

18. Гэтыя задачы пастаноўленыя перад Свінаводам магуць быць выкананы толькі актыўнай упартай барацьбой ўсіх рабочых пры камуністычных мэтадах працы—сацыялістычным спаборніцтве і ўдарніцтве, перакрыцьці сустрэчнымі прамфінплянамі меўшыхся прары... ваў пры барацьбе за высокія якасны... паказчыкі, як за цэнтральныя задачы... толькі пры рэальнай дапамозе з бок... савецкіх, прафсаюзных і каапэрацыйных... араганізацый. Зьлёт ўдарнікаў выступае... ў паход за збор рэбочых прапаноў н... выкананьне і перавыкананьне прамфін... плянаў у ва ўсіх галінах, патрэбуе а... адміністрацыі саўгасаў Сьвінаводу ма... сымальнай іх рэалізацыі.

Зьлёт заклікае шырокія масы рабо... чых і спэцыялістаў саўгасаў, калгасьні... каў на барацьбу за фабрыкі мяса, аба... вязваючыся пад кіраўніцтвам камуністыч... най партыі выканаць і перавыканаць... задачы па стварэньні высока—таварны... спэцыялізованых сацыялістычных фабры... мяса.

---

# ПАСТАНОВА

## І-га ўсебеларускага зьезду рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў па дакладу Белсаўгастрэсту

Перыяд прайшоўшы з часу апошняга зьезду саюзу характарызуецца вялізарнымі посьпехамі ўва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва, пасьпяховым выкананьнем пяцігодкі ў 4 гады. На базе ўсё разгортваючайся індустрыялізацыі краіны, наўпрэк Прышчэпаўшчыне, як кулацкай агэнтуры ставіўшай сваёй задачай рэстаўрацыю капіталізму, дзякуючы правільнаму кіраўніцтву партыі і яе Ленінскага ЦК дасягнуты магутны ўздым калгаснага руху і разгортваецца вядізарнае будаўніцтва саўгасаў, што характарызуецца стварэньнем новых саўгаскіх сыстэм „Сьвінавод „Белсаўгастрэст“, „Малочна-масьляны трэст“, „Льнопенькатрэст“, маючых сваёй задачай вырашэньне праблемы мяса, малака. сыравіны для прамысловасьці, вытворчасьці гатунковага насеньня.

Посьпехі ў сацыялістычнай рэканструкцыі с/гаспадаркі дасягнуты дзякуючы правільнай генеральнай лініі Партыі, ўсё ўзрастаючай актыўнасьці рабочых савецкіх гаспадарак і рашучай барацьбы з правымі апартуністымі, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, левымі загібшчыкамі, прымірэнцтвам да іх, а таксама, дзякуючы правадзімай Партыей палітыкай на ліквідацыю кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

У трэцім рашаючым годзе пяцігодкі перад жывёлагадоўчымі саўгасамі БССР стаяць выключна адказныя задачы па вырашэньні праблемы мяса, малака, масла, чым рэальна садзейнічаць выкананьню пяцігодкі ў 4 гады.

Канкрэтны аб'ём заданьняў па Бельсельтрэсту характэрызуецца наступнымі лічбовымі паказчыкамі:

Давесьці пагалоўе прадукцыйнага стада да 39.000 галоў (з якіх 20.000 дарослай жывёлы і 19 тысяч маладняка,) павялічыць сярэдні удой на 2.000 літраў у год, даць пралетарскім гарадом ня менш 20.100 тон таварнага малака і малочных прадуктаў (масла, сыру,) гэта значыць, ня менш 80% усей валовай прадукцыі малака, сабекаштоўнасьць малака зьнізіць на 30%, павялічыць ураджайнасьць па зернавых на 50% супроць ісходняга году пяцігодкі, па караньплодах на 33%, па бульбе на 17%, па травах сеяных-канюшыне 55% і віка-41% супроць 1930 г. Зьнізіць сабекаштоўнасьць па ўсіх палявых культурах супроць 1930 г. на 25%. На базе тэхнічнай рэканструкцыі саўгасу лепшага і больш рацыянальнага скарыстаньня маючайся рабочай сілы, перавода асноуных працэсаў вытворчасьці на зьдзельшчыну, павялічыць вытворчасьць працы на 35%, што будзе падставай для палепшаньня матар'яльнага становішча рабочых саўгасаў.

Для забесьпячэньня выкананьня гэтых адказнейшых задач неабходна правесьці наступныя мерапрыдмствы:

1) Сваечасова і поўнасьцю падрыхтавацца і ажыцьцявіць намечаную на 1931 г. вялізарную будаўнічую праграму.

Будаўніцтва павінна быць пастаўлена ў цэнтры ўвагі ўсей грамадзкасьці саўгасаў, бо ад яго залежыць выкананьне галоўнейшай задачы саўгасаў БСТрэсту-павялічэньня стада прадукцыйнай жывёлы ў вызначаных вытворчым плянам разьмерах. Саўгасы павінны поўнасьцю забясьпечыць сябе мясцовымі будаўнічымі матар'яламі, неабходнай колькасьцю будаўнічых рабочых з тым, каб разгарнуць будаўніцтва такімі тэмпамі, якія гарантавалі поўнае выкананьне будаўнічай праграмы.

Якасьці будаўніцтва, патаненьню кашітоўнасьці яго, максымальнаму і пераважнаму скарыстаньню мясцовых будаўнічых матар'ялаў, павінна быць зьвернута асаблівая ўвага.

2.) Галоўнейшай прадпасылкай для выкананьня колькасных і якасных паказчыкаў вытворчага пляну ў галіне жывёлагадоўлі зьяўляецца стварэньне устойлівай кармавой базы ў сувязі з чым неабходна ў 1931 г. дабіцца карэннай рэканструкцыі палявой гаспадаркі саўгасаў у бок заняцьця пераважнай

